Гродна
№15 (450),
28 жніўня 2016

# Слова Жыцця

www.slowo.grodnensis.by
ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# У касцёле распачынаецца новы катэхетычны год

*Традыцыйна ў апошнюю нядзелю жніўня ва ўсіх касцёлах дыяцэзіі адбываецца асвячэнне школьных прылад. Тым самым маленькія вернікі выражаюць гатоўнасць да новага навучальнага і катэхетычнага года. Святары моляцца за выхавацеляў, настаўнікаў, выкладчыкаў і катэхетаў, каб тыя годна выконвалі паслугу выхавання маладога пакалення, а дзецям і моладзі ўдзяляюць пастырскае бласлаўленне.*

працяг на с. 4



Хрысціянскае выхаванне дае дзецям духоўны кірунак, каб яны маглі ісці па жыцці правільным шляхам

## Каляндар падзей

**1 верасня**
77-я гадавіна пачатку II Сусветнай вайны.
Даручаем Богу ў малітве ўсіх палеглых і ахвяр гэтай вайны.

**4 верасня**
Успамін бл. с. Стэлы і 10-ці сясцёр назарэтанак, паплечніц і мучаніц з Навагрудка.

**8 верасня**
Нараджэнне Найсвяцейшай Панны Марыі.
Бласлаўленне зерня на пасеў.

## Ружанцовыя інтэнцыі

**Верасень**
За бацькоў-хрысціян.
Аб прабуджэнні адказнасці маці і бацькі за рэлігійнае выхаванне дзяцей.
Аб стварэнні ў парафіях дыяцэзіі спрыяльных умоў для катэхізацыі дзяцей і моладзі.

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

**"Голас Евангелля"**
Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.

**Навіны з Ватыкана па-беларуску**
Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі;
на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.;
у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace".
Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.

## Інтэрнэт-апытанне (www.grodnensis.by)

**Ці будзе Ваша дзіця ў новым навучальным годзе наведваць урокі рэлігіі?**

- так
- не, яно занадта занятае
- не, яно ўжо приступіла да I Камуніі і канфірмацыі
- цяжка сказаць

выкажыся 

**"Катэхет захоўвае ў сабе памяць пра Бога і здольны абудзіць яе ў іншых". Папа Францішак**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**XXII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

**Лк 14, 1. 7–14**

Калі Езус прыйшоў у суботу да дому аднаго з кіраўнікоў фарысейскіх з'есці хлеба, яны сачылі за Ім. Заўважыўшы, што запрошаныя выбіралі першыя месцы, расказаў ім прыпавесць: "Калі нехта пакліча цябе на вяселле, не сядай на першае месца, каб не аказалася, што нехта з пакліканых ім больш ганаровы за цябе, і каб той, хто запрасіў і яго, і цябе, не падышоў і не сказаў табе: «Саступі яму месца». І тады з сорамам павінен будзеш заняць апошняе месца. А калі цябе запросяць, прыйдзі і сядай на апошняе месца, каб той, хто цябе запрасіў, падышоў да цябе і сказаў: «Дружа, перасядзь вышэй». Тады будзе табе пашана перад тымі, хто сядзіць з табою. Кожны, хто ўзвышае сябе, будзе паніжаны, а хто паніжае сябе, узвысіцца". Пасля Езус сказаў таму, хто запрасіў Яго: "Калі наладжваеш абед ці вячэру, не кліч сяброў тваіх, ні братоў тваіх, ні родных тваіх, ні суседзяў багатых, каб і яны не паклікалі цябе ў адказ, і ты атрымаў бы адплату. Але, калі наладжваеш гасціну, кліч убогіх, калекаў, кульгавых, невідушчых, і шчаслівы будзеш, што яны не маюць як адплаціць табе, бо адплаціцца табе ў дзень уваскрасення справядлівых".

## ГАСЦІНА МІЛАСЭРНАСЦІ

Развіваючы справу евангелізацыі, Езус выкарыстоўвае нагоду, каб выправіць некаторыя нашы скажэнні. Падчас пасілку Ён дае два важныя ўрокі: адзін накіраваны да запрошаных, другі – да запрасіўшых.

Гаспадара Хрыстос заахвоціў рабіць так, як рабіў сам, запрашаючы на вялікую гасціну ў Валадарстве убогіх, засмучаных, ціхіх, галодных, прыгнечаных (як мы сказалі б сёння – тых, хто патрабуе ўчынкаў міласэрнасці адносна душы і цела). Так павінна быць і на эўхарыстычнай гасціне ў Касцёле. Калі ты патрабуеш міласэрнасці, можаш адчуваць сябе запрошаным. І памятай, што гаспадаром з'яўляецца Бог. Ён стварыў цябе з зямлі (humus), таму будзь пакорны (humilitas). Пакорны чалавек – гэта той, хто займае апошняе месца, хто стаіць нізка, хто моцна трымаецца зямлі і таму не губляе раўнавагі. Сам Езус сказаў, што прыйшоў нам служыць. І стаў выразным прыкладам пакоры, калі схіліўся, каб абмыць ногі вучням. Такім чынам, быць пакорным – самая чалавечая справа.

**XXIII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

**Лк 14, 25–33**

Шмат людзей ішло за Езусам. Звярнуўшыся, Ён сказаў ім: "Калі хто прыходзіць да Мяне і не зненавідзеў бацькі свайго, і маці, і жонкі, і дзяцей, і братоў, і сясцёр, і нават жыцця свайго, той не можа быць вучнем Маім. Хто не нясе крыжа свайго і не ідзе за Мною, не можа быць Маім вучнем. Бо хто з вас, калі захоча пабудаваць вежу, спачатку не сядзе і не падлічыць выдаткаў, ці мае на будову. Калі ж закладзе падмурак і не зможа закончыць, усе, хто ўбачыць, пачнуць смяяцца з яго, кажучы: «Гэты чалавек пачаў будаваць і не змог скончыць». Або які кароль, ідучы на вайну супраць іншага караля, не сядзе і не параіцца спачатку, ці моцны ён, каб ісці з дзесяццю тысячамі супраць таго, хто ідзе на яго з дваццаццю тысячамі? Калі не, то пакуль той яшчэ далёка, ён пашле да яго пасланцоў прасіць міру. Гэтак ніхто з вас, калі не пакіне ўсяго, што мае, не можа быць Маім вучнем".

## НЯВОЛЬНІК МІЛАСЭРНАГА АЙЦА

Жыццё паводле Езуса – гэта, на самой справе, страта жыцця. Бог захапляе, вабіць, запрашае пайсці за Ім... Але з пэўнымі ўмовамі: з нянавісцю да зямных прывязанасцей і ўласцівай разважлівасцю. Мы можам згадзіцца на ўсё гэта альбо не. Аднак, бывае інакш: калі ў нас не хапае мудрасці, каб падлічыць выдаткі, тады мы губляем усё, становімся жыццёвым пасмешышчам, руінамі. І калі ў слязах падаем на калені або ў летаргічным сне варочаемся на ложку ў пакутах, не маючы сіл нават на тое, каб ускленчыць, вось тады мы пытаемся: "Чаму гэта мяне напаткала?". Але не трэба думаць, што мы павінны самі нешта зрабіць, бо чалавек нічога не можа без Бога: ні палюбіць Яго, ні зненавідзець гэты свет.

Як марнатраўны сын вяртаецца да айца, так і беглы нявольнік Анісім вяртаецца да свайго пана. Таму і мы не можам згубіць канчатковую мэту, якая надае сэнс і вартасць нашаму жыццю: "быць вучнем Езуса" ці "калі не сынам, то нявольнікам міласэрнага Айца".

*А. Юрый Саковіч OSPPE*



**Слова рэдактара**

*кс. Юрый Марціновіч*

# Хочам пашыраць свае гарызонты

*Сёння канікулы саступаюць месца навуцы. Ужо праз некалькі дзён распачнецца новы школьны і катэхетычны год – час навучання, працы, здабывання ўменняў і навыкаў. "Усё мае свой час, і ёсць вызначаная гадзіна на ўсе справы пад небам" (Ках 3, 1).*

Самыя прыемныя дні ў годзе скончыліся разам з канікуламі. Мінуў час забаў і адпачынку, радасці і свабоды. Мы яшчэ доўга будзем успамінаць зялёныя лясы, рэкі, лугі і марскі пясок. Усё яшчэ жывуць у памяці незабыўныя ўражанні ад пешых пілігрымак, рэкалекцый, фармацыйных сустрэч і інш. Узмоцненыя духоўна, з аднаўленай верай і запалам мы вяртаемся да сваіх штодзённых заняткаў.

Гледзячы на душпастырскія ініцыятывы, якія падчас сёлетніх канікул прапанаваў Касцёл, трэба згадзіцца, што дзеці і моладзь на выдатна здалі экзамен па рэлігійнасці. Паказалі, што не існуе канікул ад Бога. Наадварот, адпачынак з'яўляецца цудоўнай нагодай, каб засведчыць аб сваёй веры, паказаць іншым, што "Езус жыве". Безумоўна, візіт у іншы касцёл, малітва ў новым месцы з незнаёмымі людзьмі пэўным чынам ажывілі нашу духоўнасць.

Дарагі Малады Сябар! На парозе чарговага года здабывання новых ведаў, патрэбных для жыцця, падзякуй Пану Богу за шчаслівыя канікулы, гарачае сонца і павеў ветру. Бачачы ў люстэрцы свой загарэлы твар, памятай, што пасталеў. А гэта патрабуе ад Цябе мудрасці. Таму ўжо з першага дня навучання старайся працаваць так, каб атрыманыя веды дапамагалі Табе служыць людзям. У настаўніках, выхавацелях і бацьках адкрывай Езуса. Дзякуй Богу за таленты, а праз любоў да навукі выкарыстоўвай усе дары свайго сэрца.

Жыццё прыносіць новыя задачы і перашкоды, таму існуе пастаянная патрэба інтэлектуальнага развіцця. Так як цягнік не можа стаяць на месцы, бо інакш пасажыры не дабяруцца да сваёй мэты, так і чалавек праз здабыванне ведаў павінен пашыраць свае гарызонты. "Будзем імкнуцца пазнаваць Пана" (Ос 6, 3). Няхай гэтыя словы стануць заахвочваннем для кожнага, каб мы імкнуліся глыбей пазнаваць нашага Пана Езуса Хрыста. Бог хоча, каб мы ведалі Яго і правялі з Ім цэлую вечнасць. Для таго Ён і паслаў на свет свайго Сына, каб кожны чалавек мог зразумець Яго і пазнаць асабіста. Толькі Езус можа надаць жыццю значэнне і мэту.

**Дзяцей, моладзь, бацькоў, настаўнікаў і выхавацеляў, святароў, манаскіх сясцёр і катэхетаў даручаем Найсвяцейшай Панне Марыі, каб Яна выпрасіла Божае бласлаўленне на новы навучальны і катэхетычны год.**

# УЧЫНАК ДЛЯ ЦЕЛА БЛІЖНЯГА. НАПАІЦЬ САСМАГЛЫХ




Вада з'яўляецца крыніцай існавання, сапраўдным скарбам, які прымаецца і трактуецца як "бласлаўленне". У шматлікіх месцах у Бібліі можна знайсці словы пра ваду, пра сасмаглых людзей. Мы бачым іх у момант, калі міласэрны Бог схіляецца над імі, навучаючы, што і чалавек павінен так рабіць.

Наталенне смагі раўнасільна падтрыманню жыцця і нават ратаванню ад смерці. Таму другі ўчынак для цела бліжняга знаходзіцца сярод найважнейшых спраў міласэрнасці адносна фізічных патрэб бліжняга. Ён мае індывідуальнае вымярэнне, патрабуючы заспакаення смагі чалавека, якога мы сустракаем на сваім шляху, але ў той жа час і грамадскае – скіроўвае наш позірк у тыя раёны, дзе тысячы людзей пакутуюць ад недахопу вады.

У той частцы свету, дзе мы з вамі жывём, вады ў дастатку. Нам не даводзіцца думаць пра тое, як яе здабываць і ашчадна выкарыстоўваць. Каштоўнасць вады адчуваецца толькі ў асобных сітуацыях: у спякотны дзень, падчас вандроўкі, пры хваробе і інш. Але недахоп вады з'яўляецца штодзённай драмай жыхароў Паўднёвага паўшар'я. Асабліва праблематычная сітуацыя назіраецца ў Афрыцы, дзе штодня шмат людзей памірае ад смагі, многія п'юць недабраякасную ваду. Учынак міласэрнасці прыпамінае аб тым, што трэба рацыянальна абыходзіцца з вадой, якая з'яўляецца вялікім дарам, памятаць пра тых людзей, якія не маюць магчымасці задаволіць смагу так проста, як гэта робім мы, праз беражлівыя адносіны клапаціцца пра будучае пакаленне (на што асаблівую ўвагу звяртае папа Францішак у сваёй энцыкліцы "Laudato si'").

Побач з жаданнем хлеба і вады чалавек можа адчуваць "смагу" ведаў, адпачынку, простай увагі. Тады "напоем" будзе працягнутая рука ў выглядзе дапамогі па задавальненні такіх патрэб. Але неабходна быць вельмі ўважлівымі і чулымі, каб убачыць, без чаго з цяжкасцю абыходзіцца бліжні.



Існуе і так званая "духоўная смага", пра якую кажа псалміст: "Як лань прагне вады з патоку, так душа мая прагне Цябе, Божа. Душа мая прагне Бога, Бога жывога, калі я пайду і з'яўлюся перад Божым аблiччам?" (Пс 42 [41], 2–3). У глыбокім сэнсе выраз "напаіць сасмаглых" азначае выйсці насустрач духоўнай патрэбе тых, хто на "пустынях" свету не можа знайсці Бога, спадзеючыся толькі на сябе. Самі таго да канца не ўсведамляючы, яны прагнуць ад бліжняга Добрай Весткі, жэстаў і дзеянняў, якія дапамогуць павярнуць у Божую любоў.

У размове з самаранкай Езус кажа: "А хто б піў ваду, якую Я дам яму, не зазнае смагі навекі" (Ян 4, 14). Вада, дадзеная Езусам – гэта Ён сам. Гэта Любоў, якой Ён з'яўляецца. Падчас укрыжавання з прабітага боку Хрыста выцекла кроў і вада, што сімвалізуе два сакраманты – Эўхарыстыю і хрост. Яны з'яўляюцца знакам таго, што ўсе, хто прымае Езуса і застаецца Яму верным, атрымаюць каштоўнасці, патрэбныя для духоўнага жыцця.

Напрыканцы можна ўявіць сабе вобраз: сухая зямля літаральна ажывае, калі на яе трапляе кропля вільгаці. Грубая глеба хутка змякчаецца і неўзабаве, калі ў яе падае жывое зерне, прыносіць добры плён.



**Кс. Андрэй Кеўлюк**

*У людзей, якія жывуць у краіне, дзе няма недахопу пітной вады, можа ўзнікнуць пытанне: "Як жа я магу выканаць гэты ўчынак?". Адразу прыходзіць на думку тое, з чым сутыкаюся на вёсцы: калі адна студня поіць некалькі двароў, людзі, асабліва ў засушлівае лета, бяруць няшмат вады, каб хапіла суседзям. Успамінаецца, чаму ўсіх нас вучылі з маленства: берагчы ваду як вялікую каштоўнасць. Аказаць міласэрнасць можна праз кубак паднесенай вады пілігрыму, а таксама праз наталенне смагі веры бліжняга. "Жывой вадой" з'яўляецца Добрая Навіна аб збаўленні, якую можа прынесці кожны. Трэба толькі папярэдне дапамагчы чалавеку адкрыць сваё сэрца на Бога.*

**5 прычын здзейсніць учынак міласэрнасці:**

1. *Сасмаглы чалавек мае сухі язык і сухое сэрца.*
2. *Вада з'яўляецца Божым дарам і пацвярджэннем Яго жыватворчай дабрыні.*
3. *Крыніца, якая здольна задаволіць смагу бліжняга, знаходзіцца ў душы кожнага.*
4. *Незаспакоеная смага можа настроіць чалавека супраць Бога.*
5. *Наталенне смагі нясе абяцанне вечнай узнагароды: "Я прагнуў, і вы напаілі Мяне" (Мц 25, 35).*

*Ангеліна Пакачайла*

# Святы Максімільян – узор для сучаснага свету



*14 жніўня ў літургічным календары каталіцкага Касцёла адзначаецца ўспамін св. Максімільяна Марыі Кольбэ, заснавальніка рэлігійнага часопіса “Рыцар Беззаганнай” і аднайменнага апостальскага таварыства. Падчас Другой сусветнай вайны святар дабравольна прыняў у Асвенціме мучаніцкую смерць замест незнаёмага яму чалавека.*

Напярэдадні 75-й гадавіны смерці аднаго з апекуноў Гродзенскай дыяцэзіі асаблівым чынам ушанавалі ў парафіі ў Каробчыцах, куды былі ўнесены яго рэліквіі. Падзея адбылася ў парафіі св. Максімільяна Кольбэ і св. Станіслава 13 жніўня. Рэліквіі ўрачыста ўнёс у святыню біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, які адзначыў, што, абраўшы сваім заступнікам св. Максімільяна, парафіяльная супольнасць даверылася штодзённай апецы вялікага святога. Іерарх заахвоціў вернікаў выпрошваць праз яго Божае бласлаўленне для сябе, блізкіх, парафіі і ўсёй дыяцэзіі.

З гаміліяй да прысутных звярнуўся кс. Аляксандр Мацкевіч. Ён падкрэсліў, што сваім прыкладам святы вучыць сучаснага чалавека аддаваць сябе ў дар іншаму. “У святога Максімільяна не адабралі жыццё – ён сам аддаў яго з любові да бліжняга”, – адзначыў святар.



*Падчас урачыстага ўнясення рэліквій св. Максімільяна Кольбэ – вялікага сведкі міласэрнасці*

Напрыканцы ўрачыстасці пробашч парафіі кс. Ян Рушніцкі падкрэсліў, што рэліквіі будуць спрыяць духоўнаму ўзрастанню вернікаў і пабуджаць парафіяльную супольнасць развіваць культ Маці Божай, верным слугой якой быў св. Максімільян.



## Жыццёвы шлях св. Максімільяна Кольбэ звязаны з Гроднам

У горад над Нёманам а. Максімільян Кольбэ прыехаў у 1922 г. па распараджэнні кіраўнікоў супольнасці айцоў францішканаў. Цягам пяці гадоў ён нёс паслугу ў парафіі Маці Божай Анёльскай. У архівах францішканаў да сённяшняга дня захоўваецца ліст а. Максімільяна да маці, напісаны адразу пасля прыезду ў Гродна. У ім апісваецца жыццё ў кляштары, гродзенскі францішканскі касцёл (у прыватнасці абразы св. Антонія і св. Францішка, якія ў той час карысталіся асаблівай пашанай, а таксама абраз Маці Божай Анёльскай, у якім айцец адчуваў прысутнасць Марыі).

У Гродне малады святар займаўся тыповай душпастырскай дзейнасцю: дапамагаў пры парафіі, спавядаў вернікаў, час ад часу прамаўляў пропаведзі ды катэхізаваў дзяцей. Паводле сведчанняў парафіян, а. Максімільян быў ветлівы і цярплівы, заўсёды адкрыта і сардэчна размаўляў з маленькімі вернікамі.

У кляштары францішканін заснаваў выдавецтва, дзе друкаваўся “Рыцар Беззаганнай”. Гэта была цяжкая праца, якая патрабавала шмат намаганняў. А. Кольбэ самастойна уладкоўваў фінансавыя справы, рыхтаваў змест і графічнае афармленне часопіса, шукаў аўтараў, разам з братамі францішканамі насіў пачкі “Рыцара” на чыгунку, каб адправіць у Польшчу. А. Максімільян пісаў: “Маці Беззаганная правяла свайго «Рыцара» праз самыя крытычныя хвіліны. Аднак, ён не толькі не ўпаў, але нават апрануўся ў каляровую вокладку і адшукаў новых чытачоў”.

Айцец клапаціўся, каб часопіс быў даступны самым бедным. Гэта атрымлівалася дзякуючы ахвяраванням заможных людзей, сярод якіх былі не толькі каталікі, але таксама праваслаўныя і габрэі. Справа Максімільяна развівалася, бо айцец гарэў сваёй ідэяй, валодаў харызмай ды дарам яднання паплечнікаў. Гэты чалавек дакладна ўсведамляў, чаго ад яго хоча Бог, і таму ўпэўнена ішоў дарогай свайго паклікання.

Апроч усяго, праз выдавецкую дзейнасць а. Максімільян аказваў уплыў на маладых людзей. Мясцовыя юнакі прыходзілі ў кляштар, каб дапамагчы айцам друкаваць і сшываць часопіс. Маладыя хлопцы бачылі, што манаскае жыццё – гэта не заўсёды нешта старое і кананічнае, што яно таксама можа быць звязана з сучаснасцю. Працуючы ў друкарні, кандыдаты ў ордэн пазнавалі францішканскую харызму і спраўджвалі сваё пакліканне.

У горадзе над Нёманам а. Максімільян пазнаёміўся з а. Мельхіёрам Фардонам, які аказаў вялікі духоўны ўплыў на святога. А. Фардон стаў для маладога святара спаведнікам, дарадцам і сябрам. Быў, бадай, адзіным, хто разумеў ідэалы Максімільяна і цяжкасці, якія той перажываў.

З а. Фардонам звязана адна цікавая гісторыя. У верасні 1915 г., пасля таго, як расійскія войскі адступілі і частку горада заняла нямецкая армія, францішканін выратаваў ад расстрэлу трынаццаць пажарнікаў, абвінавачаных у шпіянажы на карысць рускіх. Айцец паручыўся за іх нявіннасць уласным жыццём. Гісторыя стала мясцовай легендай. Некаторыя з даследчыкаў жыцця св. Максімільяна бачаць у ёй пачатак роздуму святога аб тым, ці можа адзін чалавек аддаць жыццё за другога. І прытрымліваюцца думкі, што прыклад самаадданасці старэйшага духоўнага брата стаў пачаткам да мучаніцтва а. Кольбэ.





## Малітва да святога Максімільяна

**Святы Максімільян! Мы цешымся вялікай Тваёй хвалой і дзякуем Богу за тое, што Ён так Цябе ўзвысіў і ўславіў перад абліччам свету. Любы наш брат! Цябе ўшаноўвае ўвесь люд. Нашыя сэрцы поўняцца ўдзячнасцю да Цябе за Тваю адданасць Богу, Маці Хрыстовай і чалавеку. Ты разумееш нашыя патрэбы, жаданні, клопаты і пакуты. Таму мы з даверам прыносім іх Табе. Святы Максімільян, заступнік цяжкіх часоў і мучанік любові, маліся за нас!**

## Мала захапляцца святым, трэба яго пераймаць

**Сёння ўсіх, хто прыходзіць у гродзенскі касцёл Маці Божай Анёльскай, ля брамы сустракае фігура св. Максімільяна. Яна нагадвае аб тым, што тут жыў і працаваў святы, мэтай якога было пашырэнне хрысціянства ў свеце праз пасрэдніцтва Маці Божай. У самой жа святыні ўсталявана памятная табліца ў гонар а. Кольбэ, а таксама захоўваюцца яго рэліквіі. Айцы францішкане, якія цяпер служаць у парафіі, адзначаюць, што гісторыя жыцця і мучаніцтва св. Максімільяна моцна ўражвае людзей, якія ўпершыню сюды прыходзяць, каб пазнаёміцца з гісторыяй касцёла і ордэна.**



*а. Яўген Голуб OFMConv*

“Сёння служэнне на карысць іншаму чалавеку не вельмі папулярна, – гаворыць францішканін а. Яўген Голуб. – Гісторыя а. Кольбэ, які аддаў сваё жыццё за другога – добрая катэхеза пра каштоўнасці і выдатная нагода, каб запытаць самога сябе: што для мяне важна? за што я мог бы аддаць жыццё? ці маю такую адвагу?”.

А. Яўген распавядае, што справа св. Максімільяна мае працяг. У парафіі існуе Рыцарства Беззаганнай – таварыства, члены якога з дапамогай малітвы, пакаяння і сведчання клапоцяцца аб грэшніках і тых, хто яшчэ не пазнаў Хрыста. “Ідэя рыцарства вельмі прыгожая: аддацца ва ўласнасць Богу, каб Ён мог дзейнічаць праз чалавека. Ва ўсіх справах Бог выкарыстоўвае чалавека як прыладу ў патрэбны час і ў патрэбным месцы, спасылаючы патрэбныя дары, – гаворыць францішканін. – Сэнс таварыства не ў тым, каб насіць медалік, але каб навартаць тых, хто не ведае Бога, выкарыстоўваючы ўсе магчымыя з годных сродкаў. Для гэтага неабходна мець пакору і цалкам даручыцца Марыі Беззаганнай, каб праз Яе Бог мог здзяйсняць вялікія справы”.

А. Яўген заўважае, што, на вялікі жаль, айцы не маюць свайго выдавецтва ў Беларусі, але затое прысутныя ў інтэрнэце. Францішкане ўвесь час шукаюць шляхі, каб выхоўваць моладзь у духу св. Максімільяна. “Нашыя браты ў Польшчы стварылі Школу новай евангелізацыі Беззаганнай. Хацелася б арганізаваць нешта падобнае і ў Беларусі, каб хлопцы і дзяўчаты маглі прымаць удзел у евангелізацыйных рэкалекцыях, пазнаваць асновы сваёй веры, а пасля выходзіць у свет і сведчыць пра Божую любоў”.

*Кінга Красіцкая*

# СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Езус жадае, каб Святы Дух загарэўся ў нашых сэрцах, як агонь, таму што толькі ад сэрца агонь любові можа пашырацца і развіваць Божае Валадарства. Ён не пачынаецца ў галаве, але ідзе ад сэрца. Вось чаму Езус жадае, каб агонь прыйшоў у нашыя сэрцы. Калі мы адкрыемся цалкам на дзеянне гэтага агню, якім з’яўляецца Дух Святы, Ён дасць нам адвагу і энтузіязм, каб абвяшчаць усім Езуса і Яго суцяшальнае пасланне міласэрнасці і збаўлення, адважна выплываючы ў мора.*

*“Анёл Панскі” са Святым Айцом, 14.08.2016*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Сёння мы прыходзім да Марыі, бо жадаем вучыцца ад Яе, жадаем пераймаць Яе ў жыцці. Як жа нам патрэбна сёння такая моцная вера і давер Пану Богу.*

*Давер Пану асабліва патрэбны нам у хвіліны выпрабаванняў, калі нам цяжка, калі нас прыгнятаюць праблемы і цярпенні, калі адчуваем сябе бездапаможнымі і самотнымі, калі, згінаючыся пад цяжарам нашага крыжа, пытаемся па-людску: “навошта Пан Бог даў яго нам?”, – але не можам знайсці адказу. У такія хвіліны прыгадайма сабе “fiat” Марыі і паўторым разам з Ёю: “Пане Божа, няхай мне станецца паводле Твайго слова”. Тады, напэўна, адчуем палёгку і суцяшэнне, а ў нашых сэрцах паселіцца супакой і дзіцячы давер.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас урачыстасці МБ Браслаўскай, Валадаркі азёр у Браславе, 20.08.2016*

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Мы атрымалі свабоду рэлігіі, за якую нашыя продкі дорага заплацілі. Аднак, злы дух не спіць. Ён, як леў, кружыць з рыкам, шукаючы, каго пажэрці. У выніку мы перажываем дзіўны парадокс. У нас усё больш магчымасцей, каб жыць у святле Евангелля, але мы выбіраем цемру. Ведаем, што добра, але робім зло.*

*Сучасны свет перажывае мноства крызісаў. Найбольш гавораць аб эканамічным, фінансавым, палітычным, міграцыйным, найменш – аб маральным. А ён з’яўляецца прычынай усіх іншых крызісаў. Праблема заключаецца ў тым, што сучасны чалавек, які абвяшчае ідэю абсалютнай свабоды, усё часцей жыве так, быццам Бог увогуле не існуе. Замест таго, каб жыць паводле Божага закона, ён жыве згодна з законамі, прынятымі дэмакратычным спосабам большасцю галасоў у парламенце, законамі, якія часта супярэчаць Божаму праву. Такім чынам аспрэчваецца і парушаецца Божы закон, што вядзе да ламання маральных норм.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай ва ўрачыстасць Унебаўзяцця НПМ у Святой Ліпцы*




◆ *Колькасць пілігрымаў, якія прыбылі ў Рым з пачатку Святога года, перавысіла 13 млн. чалавек. Былі падлічаны тыя вернікі, якія прайшлі праз Святыя дзверы ў базіліцы св. Пятра і прынялі ўдзел у цырымоніях Года міласэрнасці. Аб гэтым паведаміла Рада па справах новай евангелізацыі, якая арганізуе гэтыя мерапрыемствы. Нягледзячы на напружаную сітуацыю і тэрарыстычную пагрозу, колькасць вернікаў пастаянна павялічваецца. У раёне Ватыкана былі ўведзены надзвычайныя меры бяспекі.*

◆ *У жніўні Бюро апостальскай дабрачыннасці ініцыявала акцыю для бедных. “Мы збіраем нашых бяздомных з ваколіц плошчы св. Пятра, – распавядае папскі дабрадзей арцыбіскуп Конрад Краеўскі, – і ў другой палове дня едзем на мора. Пасля – на вячэру ў піцэрыю. Размаўляем... Гэта аднаўленне годнасці і, такім чынам, дзяленне тым, што для нас дасягальнае і нармальнае”. Дарэчы, падчас курортнага сезону многія дабрачынныя арганізацыі прыпыняюць сваю дзейнасць, ватыканскія ж – працуюць увесь час.*

◆ *Касцёл прызнаў аб’яўленні св. Юзафа ў мясцовасці Ітапіранга (Бразілія) у 1994–1998 гг. У іх абраннік Марыі даў чалавецтву два абяцанні: тыя, хто прысвячаюць сябе ўшанаванню яго сэрца, атрымаюць падтрымку на штодзённым шляху да святасці; і ўсе, хто будзе рабіць дабро (асабліва ў адносінах да найбольш патрабуючых: хворых і паміраючых), атрымаюць у апошні момант жыцця ласку добрай смерці. У сваім пасланні св. Юзаф таксама абяцаў: “Усе грэшнікі, нават тыя, хто здзейсніў найгоршыя грахі, могуць верыць у Божую любоў і прабачэнне, а таксама ў мяне, у маю падтрымку”.*

◆ *Дзяржава не можа садзейнічаць ідэалогіі, якая нішчыць грамадства. На гэта ўказваюць біскупы Калумбіі, рэзка супраціўляючыся спробам увядзення ў школы краіны абавязковага навучання на тэму гендэр. Іерархі нагадваюць, што вывучэнне ў школе ідэалогіі гендэр падрывае аўтаномію адукацыі, свабоду сумлення, а таксама права бацькоў прымаць рашэнне аб выхаванні сваіх дзяцей.*

◆ *Ірландскі суд першай інстанцыі прызнаў, што слова “ненароджаны”, згодна з Канстытуцыяй краіны, азначае “ненароджанае дзіця”. Таму дзіця ва ўлонні маці мае права на жыццё, а таксама шэраг іншых правоў. Суд падкрэсліў, што ненароджанае дзіця мае “значныя” правы і прававое становішча, якое выходзіць далёка за рамкі права на жыццё. Суддзя Рычард Хамфрыс адзначыў, што Канстытуцыя Ірландыі патрабуе абароны ўсіх дзяцей, незалежна ад таго, нарадзіліся яны ці не.*

*credo-ua.org; pch24.pl; niedziela.pl*

***Ангеліна Пакачайла***

# У Касцёле распачынаецца новы катэхетычны год

***Сёння Касцёл катэхізуе на розных узроўнях. Вынік у шмат чым залежыць ад бацькоў, якія павінны замацоўваць у сваіх дзецях атрыманыя веды. Але ці з’яўляюцца сёння бацькі тымі партнёрамі Касцёла, якія няспынна сведчаць аб сваёй веры, дапамагаючы дзецям узняцца да пазнання Праўды? Магчыма, дапускаюць нейкія промахі ў выхаванні? І на чым палягае роля катэхета ў справе духоўнага развіцця дзіцяці?***

● *працяг са с. 1*

**На гэтыя і шматлікія іншыя пытанні адказвае госць рэдакцыі Марына Жыбартовіч, катэхетка са шматгадовым стажам працы. Па прафесіі – педагог. Некалькі гадоў выкладала англійскую мову ў гродзенскай школе №35. Скончыла катэхетычныя курсы ў Гродне. Па запрашэнні катэхізавала дзяцей у парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Воўпе. Дзякуючы ёй, у мястэчку паўстаў музычна-драматычны тэатр “Віфлеемская зорка”, якому ў далейшым было прысвоена званне ўзорнага. З 2007 года працуе ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне. Рыхтуе дзяцей і моладзь да сакрамантаў, праводзіць шматлікія культурна-забаўляльныя мерапрыемствы. Разам са святарамі арганізоўвала сустрэчы для студэнтаў і працуючай моладзі. З’яўляецца мастацкім кіраўніком тэатра імя св. Яна Паўла ІІ. Штогод займаецца падрыхтоўкай групы дзяцей і моладзі да ўдзелу ў фіналах Парафіяды ў Варшаве.**

## НАЙБОЛЬШ РАСПАЎСЮДЖАНЫЯ ПАМЫЛКІ БАЦЬКОЎ

Часта бацькі памыляюцца, калі лічаць, што дастаткова толькі “аддаць” дзіця на катэхезу. Нібы “запішу на заняткі па рэлігіі, а там – справа за катэхетамі”. Такая пазіцыя ў корані няправільная. “У рэлігійным выхаванні вызначальная роля належыць бацькам, – падкрэслівае Марына. – Менавіта яны паказваюць дзецям прыклад веры: ад самага маленства, лічу, нават ад моманту знаходжання ва ўлонні маці. Бацькі прывіваюць ім першыя навыкі: знак крыжа, малітву. Праз узаемаадносіны паміж сабой, адносіны да Бога ствараюць у доме пэўную атмасферу”.

Таксама бацькі моцна памыляюцца, калі абмяжоўваюцца падрыхтоўкай дзяцей да І Камуніі і канфірмацыі. Лічаць, што пасля навучання дзіцяці патрэбен адпачынак. “Гэта тое самае, як сказаць дзіцяці: «Ну ўсё, ты так добра паеў, можаш цяпер месяц нічога не есці», – гаворыць катэхетка. – Пазнанне Бога павінна прадаўжацца ўсё жыццё. На жаль, далёка не ўсе гэта разумеюць”.

Часам бацькі настройваюць дзяцей на тое, што самае галоўнае – вучыцца на выдатна. Затым – стаць на шлях да атрымання прафесіі, каб паспяхова ўладкавацца ў жыцці і мець добры заробак. “Усё гэта важна, але не гарантуе таго, што дзіця, калі вырасце, будзе шчаслівым, – сцвярджае Марына. – Езус нездарма казаў: «Дазвольце дзецям прыходзіць да Мяне». Іншымі словамі: «Дазвольце дзецям быць шчаслівымі ўва Мне». Бо шчасце далёка не толькі ў тым, каб быць здаровым, незалежным, багатым і ўладкаваным”.



*Сапраўдная маральнасць немагчымая без рэлігійнай асновы*

## ЭФЕКТЫЎНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА КАТЭХЕТАЎ І БАЦЬКОЎ

Дзейнасць катэхетаў ускладняецца тым, што яны бачацца з дзецьмі, у асноўным, раз на тыдзень. І за гэты час вельмі цяжка спаўна падзяліцца верай, навучыць пазнаваць Бога і жыць паводле Яго законаў. Роля катэхета больш падобная да аратага, задача якога палягае на тым, каб узараць глебу дзіцячай душы. А далей усё залежыць ад бацькоў: ці будуць яны засяваць зерне, каб сабраць добры плён, або пакінуць усё на волю лёсу.

“Каб выхаваць здаровае духоўна-маральнае дзіця, бацькам і катэхетам неабходна супрацоўнічаць, – звяртае ўвагу катэхетка. – Гэта рэгулярны кантакт з бацькамі. Калі я працавала ў парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Воўпе, мела практыку кожны месяц збіраць бацькоў дзяцей, якія наведвалі катэхезу. Канешне, гэта дадатковы цяжар для катэхета, але ў тым ёсць свае плюсы. Лічу, што з бацькамі абавязкова трэба кантактаваць. Размаўляць не толькі наконт «паспяховасці» дзяцей, але і на тэмы, якія іх хвалююць. Пры неабходнасці – дапамагаць і накіроўваць іх. Бацькоў таксама трэба заахвочваць да нейкай сумеснай дзейнасці. Зноў жа, з маёй практыкі. У Воўпе быў тэатр, дзе прымалі ўдзел і бацькі. Што важна, ім самім было цікава, таму што гэтае пакаленне людзей не мела магчымасці прыходзіць на катэхезу. Калі б святары былі зацікаўлены ў гэтым, то маглі б арганізаваць катэхезу для бацькоў. Упэўнена, многія з іх наведвалі б такія заняткі”.

Катэхет таксама павінен быць прыкладам веры, каб выхаванцы ўспрымалі жыццё з Богам не як тэорыю, але як шлях да сапраўднага шчасця і дасканаласці. Марына заўважае, што найгрубейшую памылку робяць тыя катэхеты, якія размяркоўваюць ролі такім чынам: “я – настаўнік, ты – вучань; я навучаю, ты падпарадкоўваешся”. Вядома, выхавацель не павінен спускацца да ўзроўню дзяцей: аўтарытэт катэхета патрэбна захоўваць. Але неабходна тая залатая сярэдзіна, якая дапаможа быць з дзецьмі на адной хвалі: разумець іх, размаўляць на адной мове, і галоўнае – разам крочыць да Бога.

## ПРАСТАДУШНАСЦЬ І АДКРЫТАСЦЬ ДЗЯЦЕЙ

“На адным з бацькоўскіх сходаў я задала пытанне: «А хто ўчора маліўся з дзецьмі разам?». І толькі адна рука ўгору, – успамінае катэхетка. – Я падарыла жанчыне ружу, звярнуўшы ўвагу на тое, што такім чынам яна даглядае сваю «кветку», каб тая вырасла прыгожай. На наступны занятак хлопчык прыйшоў і распавёў сябрам, што яго мама атрымала падарунак, «таму што мы маліліся разам». Дзеці натхніліся гэтым выпадкам і падштурхнулі да супольнай малітвы сваіх бацькоў. Наступны раз, калі я задала тое ж пытанне, рук было нашмат больш”.

Дзеці ўспрымаюць усё адкрыта, шчыра вераць. Калі яны чуюць нешта новае пра Бога, то захапляюцца і з гатоўнасцю хочуць рэалізаваць гэта ў жыцці. Такія моманты вельмі каштоўныя і карысныя для самага катэхета, які пачынае па-новаму глядзець на нейкія рэчы. Так часам дзеці становяцца прыкладам веры для дарослых.

Цікава, што дзеці літаральна счытваюць штучнасць. “Напрыклад, добра падрыхтуешся да занятка, распішаш падрабязна план, а ў працэсе разумееш, што дзеці атрымалі інфармацыю, але не адчулі Божай прысутнасці, – распавядае Марына. – І тут трэба зарыентавацца катэхету, бо найважней, каб дзеці выходзілі не з «поўнай галовой», а з «перапоўненым сэрцам». Няхай веды будуць недасканалымі, але катэхеза павінна перажывацца”.

## ЖЫЦЦЁВА НЕАБХОДНАЯ КАТЭХЕЗА

“Калі на пачатку катэхетычнага навучання прыходзіць шмат дзяцей, то да выпускнога класа карціна прыкметна змяняецца, – не без жалю заўважае катэхетка. – Моладзь часта спасылаецца на занятасць. Мае шмат дадатковых заняткаў, рэпетытарства, секцыі, гурткі. Дарэчы, сучаснае пакаленне дзяцей і моладзі баіцца страціць свой час на тое, што на іх думку не так патрэбнае ў жыцці. І тут адказнасць кладзецца на плечы бацькоў, каб яны патлумачылі дзецям неабходнасць і важнасць катэхетычных заняткаў”.



Нягледзячы на тое, што катэхет адзін, а дзяцей шмат, важным з’яўляецца індывідуальны падыход да дзіцяці. Як заўважае Марына, гэта бадай што самае цяжкае – заўважыць кожнае дзіця. Зразумець, якое яно, каб далей крочыць разам у працэсе катэхізацыі. “Трэба даведацца, з якой яно сям’і, якія мае праблемы, мары. Часам здараецца прыходзіць на занятак і бачыць сумнае амаль да слёз дзіця. Тады ўжо цяжка праводзіць катэхезу, казаць пра радасць. Такія выпадкі ігнараваць нельга – трэба знайсці такія словы, каб адкрыць кожнае сэрца на дзеянне Бога. На гэтым і засноўваецца індывідуальны падыход у выхаванні дзяцей”.

Марына распавядае, што на апошніх занятках катэхезы ў 11 класе просіць выпускнікоў напісаць, чым ім былі карысныя сустрэчы. А потым зачытвае гэтыя радкі дзецям, якія толькі прыйшлі пазнаваць Бога. Адбываецца ўзаемаабмен: старэйшыя аналізуюць свой вопыт, а малодшыя ўважліва слухаюць і задумваюцца аб тым, наколькі важна наведваць заняткі па катэхезе. Шмат вучняў пішуць і дзякуюць за ўрокі катэхезы. Прызнаюцца, што часам у памяці ўсплывае пачутае даўным-даўно, што дапамагае ў пэўных сітуацыях. Вядома, з гэтага нельга не цешыцца.

## ЯК РАСПАВЕСЦІ ДЗЕЦЯМ ПРА БОГА ЦІКАВА?

“У выхаванні неабходна выкарыстоўваць усе вядомыя і новыя метады працы з дзецьмі, але не забывацца, што на першым месцы Бог. Таму цяжка ўявіць сабе катэхезу без Святога Пісання, малітвы і, як вынік заняткаў, сустрэчы з Езусам у сакрамантах. Маючы такі духоўны стрыжань, можна афармляць яго разнастайнымі формамі катэхізацыі. Калі існуе магчымасць працаваць з мультымедыйнымі сродкамі, неабходна выкарыстоўваць іх па-максімуму: ладзіць прагляд кінафільмаў, рыхтаваць тэматычныя прэзентацыі. Гэта асабліва цікава старэйшым. Сярод форм для малодшых дзейсныя гульні, стварэнне калажоў, малюнкаў. Падлеткам цікавыя дыскусіі, яны з задавальненнем задаюць правакуючыя пытанні. Ім цікава прыслухацца да сваіх сяброў, нечым падзяліцца. А яшчэ дзяцей усіх узростаў вабіць тэатр. Развучваючы ролі, хлопчыкі і дзяўчынкі ставяць сябе на месцы герояў і задумваюцца, як бы паступілі, калі б аказаліся ў аналагічнай сітуацыі. Таксама дзеці вельмі любяць разнастайныя конкурсы, іх вабіць дух спаборніцтва, а развучванне песняў і танцаў стварае на катэхезе жывую і радасную атмасферу”.

***Ангеліна Пакачайла***

## *Увага!*

***Конкурс малюнкаў “Мая катэхеза”.***

*Да ўдзелу запрашаюцца маленькія чытачы, якім прапануецца адлюстраваць у малюнку свой занятак па катэхезе. Гэта можа быць выява вясёлага катэхета ў класе, сумеснай размовы з бацькамі, развучвання малітваў з бабуляй і інш. Ніякіх абмежаванняў у фантазіі і колерах! Пакажыце, як Вы даведваецеся пра Бога.*

***Удзельнікі конкурсу будуць узнагароджаны прызамі.***

*Чакаем Вашых лістоў на адрас рэдакцыі:*
***230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 4.***

***Спяшайцеся!***
***Вынікі конкурсу будуць аб’яўлены ў нумары газеты за 9 кастрычніка.***

**Мінула лета, а разам з ім – гарачая пара прыгод і цікавых падзей. Прадбачлівыя хрысціяне запланавалі свае канікулы так, каб прысвяціць свабодныя хвіліны Богу. Дзякуючы гэтаму, не толькі адпачылі, але і духоўна аздаравіліся.**

**Давайце ўзгадаем, якія падзеі адбываліся гэтым летам у Гродзенскай дыяцэзіі і якія плён яны пакінулі ў душах нашых вернікаў.**

# Адпачынак з Богам

**Стартавала лета з VI Дыяцэзіяльнага дня дзіцяці, які прайшоў у Гродне. Больш за 2 000 хлопчыкаў і дзяўчынак з розных куткоў дыяцэзіі і з-па-за яе межаў прынялі ўдзел у разнастайнай забаўляльнай праграме.**


Юстына Аяновіч
парафія Беззаганнага Зачацця НПМ у Гродне

Дзень дзіцяці я чакала ўвесь год, таму што гэта цікавае свята для дзяцей і дзень майго анёла-ахоўніка. Сёлета сустрэла там сваіх аднакласнікаў, якія, таксама як і я, прыйшлі павесяліцца. Уражанні засталіся самыя яркія. Асабліва запомніўся конкурс, у якім я ўдзельнічала і атрымала ў падарунак школьны сшытак. Яго мне ўручыў кс. Антоній. Як потым высветлілася, гэты ксёндз мяне хрысціў... Яшчэ на свяце былі пацешныя анёлкі і клоуны. Памятаю, як да мяне нечакана падышоў адзін з клоунаў і намаляваў на твары смайлік.

У гэтым годзе я ўжо пайду на ўрокі рэлігіі. Спадзяюся, там больш даведаюся пра Пана Бога, пра якога шмат чула на свяце дзяцей, дома, у касцёле. Гэта так цудоўна, калі ты ведаеш, што Бог заўсёды побач з намі! Абавязкова хачу паўдзельнічаць у свяце яшчэ не адзін раз.

**У жніўні ў Лідзе адбылася Дыяцэзіяльная сустрэча міністрантаў. На спатканне з'ехалася 130 хлапцоў з розных парафій Гродзеншчыны**


Максім Хаванскі
парафія св. Сям'і ў Лідзе

У Дыяцэзіяльнай сустрэчы міністрантаў я ўдзельнічаў упершыню, хоць з'яўляюся міністрантам з 2010 г. Мяне цікавіла, як усё гэта адбываецца.

Праграма была вельмі насычанай. Св. Імша, цэлебраваная ў першы дзень кс. б-пам Аляксандрам Кашкевічам, дапамагла настроіцца на гэтыя дні і аддаць іх Езусу. У плане таксама была адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, якую правёў наш вікарый кс. Юрый Гурскі. Падчас яе мы знаходзіліся побач з алтаром, што поўніла прысутных духам адзінства. Гэта быў цудоўны час, каб задумацца над сваім пакліканнем і тым, што сапраўды хочацца рабіць у жыцці... У гэтым годзе я скончыў школу і зрабіў свой выбар: паступіў у польскую навучальную ўстанову.

На другі дзень сустрэчы да нас далучыўся кс. бп Юзаф Станеўскі, які падчас гамілії падкрэсліў, што быць міністрантам – вялікі дар і пакліканне. Быць "рыцарам Хрыста" – адзін з самых простых спосабаў быць бліжэй да Езуса, што сапраўды з'яўляецца вялікай ласкай. І тады я раптам усвядоміў адну вельмі важную рэч: служба пры алтары дала мне лепшых сяброў. Я ўдзячны Богу за гэтае пакліканне, дзякуючы якому я пазнаў новых людзей, пабываў у шматлікіх цікавых і прыгожых месцах. Між іншым, прыняў удзел у сёлетніх Сусветных днях моладзі ў Кракаве.

Спадзяюся, што сустрэчы такога роду стануць рэгулярнымі ў нашай дыяцэзіі. Яны з'яўляюцца добрай магчымасцю для падлеткаў, каб задумацца аб сваім пакліканні, стаць добрым слугой алтара, а таксама ўсё сваё жыццё прысвяціць служэнню Богу.

**Кожнае лета з розных куткоў дыяцэзіі вырушаюць пілігрымкі ў святыя месцы. Сёлета тысячы вернікаў па традыцыі накіраваліся ў Тракелі, Навагрудак, Навумавічы, Рось, Гудагай, Будслаў, Вільню.**


Часлава Каламыцкая
парафія Спаслання Святога Духа ў Бярозаўцы

Першай пілігрымкай у маім жыцці было духоўнае падарожжа ў Тракелі. Пасля была Вільня, у мінулым годзе – Будслаў і Рось. Сёлета на мапе маіх абавязковых пілігрымак з'явіўся Навагрудак.

Я прымаю ўдзел у паломніцтвах, каб умацаваць сваю веру. Наведваючы святыя месцы, адчуваю прысутнасць Бога ў сваім жыцці, Яго бясконцую любоў і міласэрнасць. Ды і сама я змяняюся: станаўлюся больш спакойнай і ўраўнаважанай, на шматлікія жыццёвыя цяжкасці пачынаю глядзець другімі вачыма.

Ідучы ў пілігрымцы поруч з моладдзю, адчуваю сябе маладой і энергічнай. Крыху сумна становіцца, калі запрашаю людзей свайго ўзросту ў паломніцтва, а ў адказ чую словы: "Я не дайду". Чалавек жа яшчэ не спрабаваў! Верце, калі ў дарозе будзе цяжка, Бог панясе Вас на руках.

Дзякую ўсім ксяндзам, манаскім сёстрам, клерыкам і паломнікам, што дапамаглі мне адкрыць прыгажосць пілігрымавання, якое змяніла маё жыццё.

**У канцы чэрвеня ў Гродне адбылася VIII Парафіяда дзяцей і моладзі. У рэлігійна-спартыўнай сустрэчы прынялі ўдзел каля 500 маладых людзей з 36-ці парафій Гродзенскай дыяцэзіі.**


Эдуард Пакачайла, Вікторыя Байкоўская
парафія Маці Божай Вастрабрамскай у Гродне

Сёлетняя Парафіяда пакінула пасля сябе незабыўныя ўражанні і выключна пазітыўныя эмоцыі. Мы не толькі весела бавілі час, знаёміліся з цікавымі і адкрытымі людзьмі, набылі новых сяброў, але і ўмацавалі сваю веру, нанова адкрылі яе скарб, каб пасля вяртання дамоў адважна сведчыць перад людзьмі аб Хрысце.

Арганізатары Парафіяды задбалі пра тое, каб кожны наш дзень праходзіў з карысцю не толькі для цела, але і для душы. Раніцай мы прымалі ўдзел у св. Імшы. Цягам дня маглі асабіста сустрэцца з Богам падчас адарацыі. Увечары збіраліся разам, каб супольнай малітвай падзякаваць за пражытыя дзень.

Вельмі яркія ўспаміны ў нас звязаны са спартыўнымі спаборніцтвамі. Мы разам перажывалі няўдачы, шчыра радаваліся перамогам і прыкладалі ўсе намаганні, каб выступіць на высокім узроўні. Таксама падчас Парафіяды мы адкрывалі таленты, якія Бог паслаў кожнаму з нас, і дэманстравалі іх падчас тэатральнага конкурсу.

Пасля міжнароднай Парафіяды, якая адбылася трохі пазней у Варшаве, мы паехалі ў парафіяльны лагер у Калобжэг. Адпачынак на моры, які даў нам "запас здароўя" як мінімум на год, спалучаўся з нашым духоўным развіццём. Разам з дыяканам Дзянісам Бразінскім мы разважалі аб 10-ці Божых запаведзях і Божай міласэрнасці.

Шчыра дзякуем усім, хто далучыўся да арганізацыі Парафіяды. Асаблівыя словы ўдзячнасці скіроўваем да святароў, якія рыхтавалі нас да ўдзелу ў гэтай падзеі і ўвесь час духоўна падтрымлівалі.

**На працягу ўсяго летняга перыяду на тэрыторыі Лідскага раёна дзейнічаў дзіцячы аздараўленчы лагер у в. Няцеч. За гэты час у 5-ці зменах летніка адпачыла 300 хлопчыкаў і дзяўчынак.**


Алег Гарбачоў
"Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі

Дзіцячы лагер адпачынку "Няцеч" – адзін з самых значных праектаў, які арганізуе Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі. Дзякуючы гэтаму летніку хлопчыкі і дзяўчынкі з малазабяспечаных, шматдзетных, няпоўных і апякунскіх сямей могуць весела правесці канікулы. Сёлета ў Няцечы гасцілі дзеці ва ўзросце ад 8 да 13 гадоў, якія прыехалі з розных куткоў Гродзенскай дыяцэзіі, а таксама з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

Як і штогод, асноўнай мэтай летніка было духоўна-маральнае выхаванне дзяцей і падлеткаў, таму ўдзельнікі не толькі весела бавілі час, але таксама пазнавалі асновы хрысціянскай веры. Арганізатары прыклалі шмат намаганняў, каб кожны дзень быў цікавым, запамінальным і духоўна напоўненым. Дзеці ўдзельнічалі ў розных забаўляльных мерапрыемствах, спявалі, танцавалі. Пры гэтым не забываліся пра малітву, штодзённую св. Імшу і адарацыю Найсвяцейшага Сакраманту.

Дэвізам сёлетняга адпачынку сталі словы "Міласэрнасці час да Бога наблііжае нас". Мы асаблівым чынам клапаціліся аб тым, каб хлопчыкі і дзяўчынкі пазналі праўду аб Божай міласэрнасці, зразумелі, што такое міласэрнасць і як быць міласэрнымі ў штодзённым жыцці.

Яшчэ адным цікавым мерапрыемствам летніх канікул быў інтэграцыйны спектакль па матывах казкі Льюіса Кэрала "Аліса ў Краіне цудаў". Галоўныя ролі ў ім сыгралі дзеці з асаблівасцямі развіцця. Мерапрыемства рыхтавалася і праводзілася валанцёрамі нашай арганізацыі, якія на працягу года апекуюцца маленькімі выхаванцамі дашкольнай групы "Карытас" для дзяцей з асаблівасцямі развіцця ў гродзенскім Цэнтры развіцця дзіцяці №30. Дапамагаючы дзецям атрымліваць як мага больш станоўчых эмоцый ад навакольнага свету, валанцёры самі духоўна ўзраслі.

**У шматлікіх парафіях дыяцэзіі былі арганізаваны "Канікулы з Богам". Дзённыя дзіцячыя лагеры забяспечылі адпачынак шматлікім жадаючым.**


Кацярына Гусейнава, Эвеліна Валюсь, Рэната Станкевіч
парафія Унебаўзяцця НПМ і св. Язафата Кунцэвіча ў Сапоцкіне

У гэтым годзе "Канікулы з Богам" у нашай парафіі праходзілі пад дэвізам "Міласэрныя як Айцец". Мы штодзённа сустракаліся на катэхезе, падчас якой разважалі пра ўчынкі міласэрнасці адносна душы і цела, маліліся Вяночкам да Божай міласэрнасці і супольна ўдзельнічалі ў св. Імшы. Усё праходзіла ў цёплай і зычлівай атмасферы.

Гэта быў радасны час у коле сяброў. Мы падарожнічалі па цудоўных мясцінах. Былі ў Воўне, Ваўкавыску, Мастах, Зэльве, Капцёўцы. Вялікі зарад эмоцый атрымалі падчас веласіпеднай вандроўкі: ездзілі на Аўгустоўскі канал, дзе бавілі час ля вогнішча. Апрача таго, прымалі ўдзел у розных конкурсах і спартыўных спаборніцтвах.

Старэйшыя хлопцы і дзяўчаты ездзілі па Беларусі на цягніку. Некаторым з нас давялося пабываць у Баранавічах, Брэсце і Пінску. Мы разам бавіліся, спявалі ў цягніку рэлігійныя песні, даючы сведчанне сваёй веры. Маліліся ў прыгожых мясцовых святынях, знаёміліся з гісторыяй гарадоў, а потым праводзілі ночы ў палатках на ўлонні прыроды. Гэтае падарожжа вельмі нас узбагаціла. Мы адчулі вялікую гасціннасць і адкрытасць людскіх сэрцаў, навучыліся бачыць, наколькі добры наш Бог і што кожны чалавек з'яўляецца дарам.

Падчас "Канікул з Богам" важным для нас быў не толькі адпачынак і забавы, але таксама магчымасць навучыцца штодзённа жыць верай, заўважаць прысутнасць Бога і адносіцца адзін да аднаго з любоўю і зычлівасцю. Няхай міласэрны Айцец за ўсё будзе блаславёны і праслаўлёны!

*Матэрыялы паласы падрыхтавалі кс. Юрый Марціновіч, Кінга Красіцкая і Ангеліна Пакачайла*

## З КАТАЛІЦКАГА ДРУКУ

**Catholic.by**

### Будслаўскі фэст прэтэндуе быць уключаным у спіс спадчыны ЮНЕСКА

**Міжнародныя спецыялісты праводзяць экспертызу беларускай традыцыі святкавання ў гонар цудатворнага абраза Маці Божай Будслаўскай. Гэты элемент нематэрыяльнай культуры знаходзіцца ў ліку суіскальнікаў на прадстаўніцтва ў спісе сусветнай культурнай спадчыны чалавецтва.**

Да канца верасня бягучага года эксперты ЮНЕСКА азнаёмяцца з прадстаўленым беларусамі файлам "Святкаванне ў гонар абраза Маці Божай Будслаўскай". Затым яны вынесуць сваё падсумаванне на разгляд Міжурадавага камітэту, пасяджэнне якога адбудзецца ў Эфіопіі ў лістападзе-снежні.

**eKai.pl**

### Папа натхніў повара дапамагаць бедным

**Падчас летняй Алімпіяды ў Рыа-дэ-Жанейра вядомы італьянскі повар Масіма Батура рыхтаваў бясплатныя пасілкі для патрабуючых. Стравы ён гатаваў з нявыкарыстаных у алімпійскай вёсцы прадуктаў.**

Ініцыятар сацыяльнага праекта, накіраванага на жыхароў бедных раёнаў Рыа, прызнаўся, што да гэтай акцыі яго падштурхнулі словы папы Францішка. На заканчэнне першай малітвы "Анёл Панскі" на плошчы св. Пятра ў Ватыкане Пантыфік сказаў: "Добрай нядзелі! Усім добрага абеду!". Повар спадзяецца, што яго праект у Рыа-дэ-Жанейра стане прыкладам для пераймання і ў свеце абавязкова з'явяцца падобныя акцыі.

**wiara.pl**

### Паўстае "Кніга пытанняў" да папы Францішка

**Чаго баіцца Святы Айцец? Як быць міласэрным да тых, хто забівае хрысціян? У чым заключаецца мэта жыцця? Гэта толькі некаторыя з пытанняў, зададзеных Пантыфіку.**

Падчас Сусветных дзён моладзі члены міжнароднага руху "Камунія і Вызваленне" арганізавалі ў кракаўскім Палацы мастацтваў выставу. Там маладыя людзі разважалі над праблемамі, якія закранулі б у магчымай размове з Папам. Свае пытанні моладзь кідала ў драўляную скрыню або дасылала на электронную пошту. Усе яны ў хуткім часе будуць апублікаваны "Выдавецтвам М".

*Кінга Красіцкая*

## У гродзенскай семінарыі прайшлі рэкалекцыі для юнакоў

*Духоўныя практыкаванні па распазнанні жыццёвага паклікання адбываліся пад кіраўніцтвам кс. Валерыя Быкоўскага і кс. Андрэя Лішко. Сустрэча спрыяла паглыбленню асабістых адносін маладых людзей з Хрыстом.*

Сёлетнія рэкалекцыі былі прысвечаны тэме "Міласэрны, як Айцец". Юнакі разважалі над няспынным дзеяннем міласэрнага Бога, якое змяняе вобраз мыслення, вучыць распазнаваць волю Усемагутнага і ўзгадняць свае думкі з Яго думкамі.

У межах рэкалекцый удзельнікі сустракаліся са святарамі і семінарыстамі, шукаючы адказы на шматлікія хвалюючыя пытанні.



## "Канікулы з Богам" для спартыўнай моладзі прайшлі ў Слоніме

*Мерапрыемства арганізавалі кс. Артур Малафей – душпастыр спартсменаў – і трэнерскі штаб футбольнага клуба "Слонім".*

У парафію Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі прыехалі футбалісты, плыўцы і гандбалісты з розных куткоў Гродзенскай дыяцэзіі. Кожны дзень распачынаўся св. Імшой, пасля чаго адбываліся прафесійныя трэніроўкі і таварыскія матчы. Апрача спартыўных мерапрыемстваў маладыя людзі збіраліся на супольную малітву і разважанні над Божым словам, што дапамагала ім паглыбляць сваю сувязь з Богам.



## Кс. бп Аляксандр Кашкевіч наведаў парафію ў Беліцы

*У межах візіту іерарх асвяціў Місійны крыж, а таксама ўдзяліў сакрамант канфірмацыі.*

Падчас св. Імшы вернікі перажывалі заканчэнне святых Місій і асаблівым чынам дзякавалі Пану Богу за пяць гадоў з моманту асвячэння сваёй святыні. Гамілію да прысутных прамовіў а. Андрэй Агель SP, які на працягу тыдня праводзіў Місіі ў парафіі. "Кожны з нас у сваім сэрцы зможа ўзвысіць Крыж праз любоў да Езуса. Углядаючыся ў распяцце, давайце памятаць, што гэта знак нашага Збаўлення", – адзначыў святар.

На заканчэнне ўрачыстасці пробашч парафіі кс. Валянцін Хведук выказаў надзею, што гэтая малітоўная сустрэча і праведзеныя святыя Місіі павінны памнажыць і нанова распаліць агонь любові ў сэрцах вернікаў.



## Сястра назарэтанка са Смаргоні склала першыя манаскія абяцанні

*Урачыстасць адбылася ў касцёле Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста ў Чанстахове (Польшча). Яе ўзначаліў Мітрапаліт чанстахоўскі абп Вацлаў Дэпо.*

На важнай падзеі прысутнічала дэлегацыя сясцёр назарэтанак з Беларусі. Такім чынам манахіні падтрымалі с. Імэльду Пятрову сваімі малітвамі, каб яна заўсёды ішла за голасам Езуса Хрыста, які кліча да служэння ў сваім Касцёле.

У дзень складання абяцанняў сястра атрымала чорны вэлюм як знак поўнай прыналежнасці Хрысту, крыж як знак дарогі да вечнага жыцця, свечку як знак Хрыстовага святла і новага жыцця, а таксама канстытуцыю супольнасці як "права любові".



## Урачыстасць Унебаўзяцця НПМ адсвяткавалі ў Гродзенскай катэдры

*Упершыню таямніцу ўнебаўзяцця Маці Божай асаблівым чынам ушанаваў Гродзенскі катэдральны капітул.*

Прысутныя канонікі адчыталі Брэвіярый, пасля чаго распачалася св. Імша, цэлебраваная біскупам Гродзенскім Аляксандрам Кашкевічам. З гаміліяй да прысутных звярнуўся кс. канонік Антоній Грэмза, які адзначыў, што "Бог праз Марыю адорвае людзей шматлікімі ласкамі, даючы прыгожы прыклад жыцця ў святасці". Святар дадаў, што Гродзенскі капітул нездарма абраў сваёй заступніцай Маці Божую Унебаўзятую. Марыя зяўляецца вобразам будучай хвалы, да якой павінен імкнуцца Касцёл.

Напрыканцы біскуп асвяціў зёлкі і кветкі – прыгожыя плады працы вернікаў, прынесеныя ў святыню ў знак падзякі за ўраджай, і сімвал таго, з чым яны стануць перад Панам пасля зямнога жыцця.



## Новы Апостальскі нунцый арцыбіскуп Габар Пінтэр прыбыў у Беларусь

*У Нацыянальным аэрапорце "Мінск" яго сустрэлі члены Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі.*

Апостальскі нунцый адзначыў, што з вялікай радасцю прыступае да сваіх новых абавязкаў – прадстаўляць Святога Айца Францішка ў нашай краіне. Дыпламат падкрэсліў, што на пачатку свайго служэння жадае пазнаёміцца з сітуацыяй вернікаў у Касцёле ў Беларусі, узаемаадносінамі з праваслаўнай Царквой. Адзначыў, што ў бліжэйшы час плануе наведаць усе каталіцкія дыяцэзіі краіны.

Арцыбіскуп Пінтэр распавёў, што два тыдні таму бачыўся са Святым Айцом, з якім размаўляў аб магчымасці прыезду ў Беларусь. „Папа выказаў надзею, што знойдзе час і магчымасць для візіту ў вашу краіну. Я не магу сказаць, калі або як гэта будзе, але думаю, што сказанае Пантыфікам – штосьці пазітыўнае для Беларусі", – заявіў Апостальскі нунцый.



## АНОНСЫ

### ПРЫПАДАЕ 25-Я ГАДАВІНА СМЕРЦІ С.П. КСЯНДЗА ІНФУЛАТА МІХАЛА АРАНОВІЧА

**30 жніўня ў 18.00** на старых каталіцкіх могілках па вул. Антонава ў Гродне, дзе спачывае цела с.п. Ксяндза Інфулата, адбудзецца жалобнае набажэнства ў яго інтэнцыі.

У 19.00 у пабернардынскім касцёле Адшукання Святога Крыжа будзе адпраўлена св. Імша пад кіраўніцтвам Яго Эксцэленцыі Ксяндза Арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага.



*Кс. інфул. Міхал Арановіч на працягу многіх гадоў выконваў паслугу пробашча ў парафіі Адшукання Святога Крыжа ў Гродне, зяўляўся генеральным вікарыем Гродзенскай дыяцэзіі. Запрашаем да супольнай малітвы ў знак памяці і ўдзячнасці за адданую працу ксяндза ў Хрыстовым Касцёле.*

### ПІЛІГРЫМКА ГРОДНА – КАПЦЁЎКА

Традыцыйна ў трэцюю нядзелю верасня з Гродна і ваколіц вырушае пешая пілігрымка дзяцей і моладзі, настаўнікаў і выхавацеляў, выкладчыкаў і катэхетаў. Удзельнікі накіроўваюцца ў санктуарый Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку Надзеі ў Капцёўцы, каб на парозе новага навучальнага і катэхетычнага года атрымаць Божае бласлаўленне і даверыць усе свае справы мацярынскай апецы Панны Марыі.
**Сёлета пілігрымка выходзіць 18 верасня.**

**Праграма:**

08.00 – выхад пілігрымкі з касцёла Маці Божай Анёльскай *(францішканскі)* у Гродне;
12.00 – прывітанне пілігрымаў на Узгорку Надзеі ў Капцёўцы;
12.00 – 13.00 – адпачынак, гарбата;
13.00 – Вяночак да Божай міласэрнасці;
13.15 – св. Імша;
14.30 – канцэрт, выступленні парафіяльных груп;
16.30 – заканчэнне, вяртанне аўтобусамі ў Гродна.

*Да ўдзелу запрашаюцца ўсе жадаючыя.*
*За падрабязнай інфармацыяй звяртацца да кусташа санктуарыя ў Капцёўцы кс. Міхала Ластоўскага па тэлефоне: (8-029) 116-87-26.*

### НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПІЛІГРЫМКА СЕМ'ЯЎ

X Нацыянальная пілігрымка сем'яў пад дэвізам "Прабачэнне і паяднанне ў сям'і" пройдзе 10–11 верасня ў санктуарыі Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе.

**Праграма:**

**10 верасня**
13.00 – прывітанне;
13.10 – абед;
14.30 – канферэнцыя;
15.00 – Вяночак з выстаўленнем Найсвяцейшага Сакраманту;
16.00 – св. Імша;
17.00 – майстэрні *(тоеснасць мужчыны і жанчыны, метады распазнавання плоднасці, абарона жыцця і інш.)*;
19.00 – вячэра;
20.00–23.00 – баль.

**11 верасня**
8.00 – сняданак;
9.00 – св. Імша;
10.00 – канферэнцыя;
11.00 – абмен думкамі і ўражаннямі пасля ўдзелу ў майстэрнях;
13.00 – абед.

**У сувязі з судовым працэсам у Касцёльным судзе Гродзенскай дыяцэзіі, спадарыню Клімовіч (дзявочае прозвішча Струкава) Наталлю Васільеўну (29.03.1986 г.н.), якая 12 жніўня 2005 г. заключыла сужэнскі саюз са спадаром Клімовічам Сяргеем Луцыянавічам, просяць звярнуцца ў сядзібу Суда ў Гродне (вул. К. Маркса, 4) або патэлефанаваць па нумары (8-0152) 75-64-37.**

*Чытачоў, якія ведаюць адрас пражывання ці іншую інфармацыю аб месцы знаходжання сп. Клімовіч (Струкавай) Наталлі, просім перадаць гэтыя звесткі ў Касцёльны суд.*

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### *Калі Вы апошні раз размаўлялі з ксяндзом са сваёй парафіі?*




*Пераважная большасць рэспандэнтаў выказалася, што размаўляла са сваім пробашчам на працягу апошняга месяца. Чвэрць апытаных кантактавалі з ксяндзом са сваёй парафіі на працягу апошняга паўгоддзя і года. Невялікая частка ўспамінае пра такі выпадак больш за год таму. Ёсць і тыя, хто ніколі ў сваім жыцці не размаўляў з пробашчам*

## КАМЕНТАРЫЙ

*Вынікі чарговага апытання паказваюць, што большасць людзей, якія звязаны з Касцёлам, мае частыя і добры кантакт са сваімі душпастарамі. Сёння з ксяндзом можна сустрэцца не толькі ў касцёле, але і ў розных пілігрымках, сустрэчах, рэкалекцыях. А можна проста прыйсці і папрасіць аб размове, аб хвіліне ўвагі і зразумення. Святар даступны для вернікаў. Як часта паўтараў святы Ян Марыя Віянэй: "Святар жыве не для сябе, а для вас".*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**28 жніўня 1982 г.** – кс. Ян Балтралік, *проб. Лабно;*
**30 жніўня 1973 г.** – кс. прэл. Юзаф Інгелевіч, *ген. вік., проб. Астравец;*
**30 жніўня 1991 г.** – кс. інфул. Міхал Арановіч, *ген. вік., проб. Гродна;*
**3 верасня 1987 г.** – кс. Апалінарый Зубелевіч, *проб. Канвелішкі;*
**4 верасня 1941 г.** – кс. Адольф Гродзіс, *проб. Першамайск;*
**4 верасня 1956 г.** – кс. Вацлаў Драб, *проб. Струбніца;*
**5 верасня 1939 г.** – кс. Баляслаў Корнь, *проб. Мікелеўшчына.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by***

# Новы дырэктар "Карытас": пашырыць спектр дапамогі патрабуючым

*3 жніўня бягучага года дырэктарам "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі прызначаны кс. д-р Раман Рачко. Новую пасаду ён будзе сумяшчаць з абавязкамі рэктара Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне. У інтэрв'ю святар распавядае пра планы арганізацыі, яе асаблівасці і магчымы саўдзел кожнага ў дабрачыннай справе.*




**Кс. д-р Раман Рачко нарадзіўся 25 сакавіка 1979 г. у Алекшышках. Паходзіць з парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Начы (Гродзенская дыяцэзія). У 2002 г. скончыў Вышэйшую духоўную семінарыю ў Гродне. 24 мая 2003 г. прыняў прэзбітэрскае пасвячэнне з рук біскупа Аляксандра Кашкевіча. У 2003–2005 гг. вучыўся ў Каталіцкім універсітэце ім. Яна Паўла ІІ у Любліне (Польшча). У 2005–2007 гг. займаў пасаду прэфекта гродзенскай семінарыі, у 2007–2009 гг. – намесніка рэктара. З 2009 г. служыў у парафіі ў Рацінгене Кёльнскай архідыяцэзіі (Германія). 31 ліпеня 2014 г. прызначаны рэктарам Гродзенскай ВДС. 20 жніўня 2016 г. – дырэктарам дабрачыннага таварыства "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі.**

***– Кс. Раман, на Вашу думку, якая місія ўскладзена на Вас як на кіраўніка "Карытас"?***

– З аднаго боку, яна падобна на місію кіраўніка любой іншай арганізацыі – забяспечыць эфектыўную дзейнасць у накірунку, акрэсленым статутам. З другога боку, каталіцкая і дабрачынная арганізацыя мае сваю спецыфіку. "Карытас" і яго кіраўнік павінны дзейнічаць не толькі ў праўных рамках дзяржаўнага заканадаўства, але і ў рамках Кананічнага права, успрымаць сваю дзейнасць не толькі як службовы абавязак, але і як спаўненне адной з функцый каталіцкага Касцёла. Як вядома, такіх функцый тры: абвяшчэнне Божага слова (martyria), здзяйсненне культу (leiturgia) і служэнне (diakonia). Гаворка як раз аб дыяконіі.

***– У чым бачыце будучыню дабрачыннай арганізацыі? У якіх кірунках неабходна развівацца?***

– На сённяшні дзень "Карытас" мае даволі шырокае поле дзейнасці і ахаплівае сваёй апекай усе катэгорыі сацыяльна неабароненых грамадзян: ад шматдзетных сем'яў да адзінокіх састарэлых, ад бяздомных да вязняў, ад малазабяспечаных і інвалідаў да моладзі. Праекты рэалізуюцца самых розных: сацыяльныя, адукацыйныя, інвестыцыйныя і інш. Мяркую, што буду абапірацца на існуючы вопыт дзейнасці арганізацыі і адначасова шукаць нейкія дадатковыя шляхі, якія б дазволілі пашырыць спектр дапамогі патрабуючым. На маю думку, адным з такіх напрамкаў з'яўляецца развіццё парафіяльных "Карытас". Прыкладам таму можа паслужыць добра арганізаваная праца такога тыпу ў некаторых краінах Захаду.

***– Ці плануеце задзейнічаць у працы "Карытас" семінарыстаў?***

– Клерыкі супрацоўнічаюць з "Карытас" і сёння. Штогод выязджаюць у статусе валанцёраў-выхаваўцаў у лагер адпачынку для дзяцей у в. Няцеч, што ў Лідскім раёне. Маю надзею, будзе магчымасць бліжэй пазнаёміць будучых святароў з рознымі напрамкамі працы "Карытас" і тым самым звярнуць іх увагу на людзей бедных і патрабуючых, аб чым вельмі часта успамінае Святы Айцец Францішак.

***– Дарэчы, як просты чалавек можа далучыцца да ініцыятыў "Карытас", каб асаблівым чынам адгукнуцца на пасланне Пантыфіка на Год міласэрнасці?***

– Дапамагаць бліжняму праз "Карытас" можа любы жадаючы, незалежна ад веравызнання. Рэалізаваць сябе і выкарыстаць дадзеныя ад Бога таленты можа кожны. Шляхоў для гэтага шмат: ахвяраванні на рахунак арганізацыі, удзел у акцыях, што ладзяцца таварыствам, і, канешне, малітва ў яго інтэнцыі. У свеце вельмі шмат людзей, якія па розных прычынах не кожную нядзелю прыходзяць у касцёл, але заўсёды гатовы прыняць удзел у рознага тыпу дабрачынных акцыях. Хацелася б, каб і ў нас як мага больш людзей у парафіях адкрывалі свае сэрцы на іншых, знаходзілі для гэтага магчымасць і час. Варта памятаць, што дапамога патрабуючым – адзін са спосабаў практыкавання сваёй веры, важнасць якога нам добра знаёмая з Евангелля.

*Кс. д-р Раман Рачко змяніў на пасадзе кс. Віталія Дабраловіча, які кіраваў "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі на працягу апошніх дзесяці гадоў, а зараз з'яўляецца дырэктарам Нацыянальнага "Карытас".*

***Ангеліна Пакачайла***




# Гродзенскія вернікі прывіталі пілігрымку Беласток – Вільня

Пілігрымы, якія ў XXIV раз накіраваліся ў санктуарый Маці Міласэрнасці ў Вільні, завіталі ў горад над Нёманам 18 жніўня. Да паломніцкай групы далучылася каля 80-ці вернікаў з розных месцаў Беларусі, каб разам пілігрымаваць да мэты свайго шляху і паглядзець у вочы Марыі – Той, якая свеціць у Вострай Браме.















## Як павінна выглядаць "правільная" малітва?

*Аб малітве напісана мноства кніг. Пра тое, як яна павінна выглядаць, можна прачытаць у многіх месцах у Святым Пісанні. Айцы Касцёла ў сваіх працах неаднойчы даюць падказкі адносна таго, як трэба маліцца. У Катэхізісе каталіцкага Касцёла шмат старонак прысвечана гэтай найважнейшай сферы жыцця. Паспрабуем злёгку закрануць тое, што так важна ў малітве.*

*Напачатку давайце адкажам на пытанне: што такое малітва? Самы просты з адказаў гучыць: "Гэта размова з Богам, дыялог двух асоб, якія любяць адна адну". Дыялог, а не аднабаковы маналог, як гэта часта здараецца ў духоўным жыцці многіх вернікаў. Тое, што мы гаворым Богу, важна. Аднак нашмат важнейшае тое, што Бог хоча сказаць нам. У гэтым дыялогу мы павінны ўсведамляць, да Каго звяртаемся і якой паставы на малітве чакае ад нас Нябесны Айцец.*

*Трэба зрабіць асобны акцэнт на нашым уяўленні Бога. А яно, на жаль, часцей за ўсё вельмі сціплае, што сур'ёзна абмяжоўвае нашыя адносіны з Ім, г.зн. малітву. Божае слова падае нам шмат імён Бога: Пан, усемагутны Валадар, Настаўнік, Цар і г. д. Гэтыя тытулы адпавядаюць велічы Стварыцеля. Іх, канешне, можна і трэба выкарыстоўваць у малітве.*

*Прыглядзімся да апісаных у Святым Пісанні сітуацый, дзе Езус акрэсливае людзей (апрача фарысеяў і кніжнікаў). Да іх непасрэдна звяртаецца: "Будзь адважным, сыне, адпускаюца табе твае грахі" (Мц 9, 2); "Дзеці, яшчэ крыху Я буду з вамі" (Ян 13, 33); "Вы сябры Мае, калі робіце тое, што Я наказваю вам" (Ян 15, 14) і г. д. У Біблії няма фрагментаў, дзе Езус звяртаўся б да іншых словамі: вучань, слуга, падданы і да т. п. Калі апосталы спыталіся Хрыста, як павінны маліцца, то пачулі ў адказ: "Кажыце: «Ойча наш...»". Чаму? Бо мы любімыя дзеці Езуса і Яго дарагія сябры. Кожны з нас без выключэння. Таму пазнанне сапраўднага вобраза Бога вядзе да паляпшэння адносін з Ім у малітве, падобна простаму, даверліваму і пакорнаму звароту дзіцяці да свайго Нябеснага Айца. Менавіта гэтага ад нас чакае Бог. Такую сувязь прагне наладзіць з кожным чалавекам.*

*Каб пачаць маліцца, трэба пераступіць парог граху, прыхільнасцей, уласнага эгаізму, засяроджання на сабе і на ўласных справах ды пераключыцца на Бога. На другім баку гэтага парога мы пачынаем існаваць па-іншаму: звяртаемся да Бога, скіроўваем на Яго ўсю нашу ўвагу і пазнавальныя здольнасці, трываем у адносінах з Ім. Становімся перад Богам, адкрытыя на Яго волю. Пачынаем слухаць, разважаць, пытацца, адказваць – размаўляць. І ў выніку нас ахінае радасць ад кантакту з Айцом.*

***Кс. Аляксандр Сямінскі***

*Прывітанне, Маленькі Сябар! Вядома, няўдачы засмучаюць. Але гэта далёка не нагода, каб упадаць у роспач. Часам за непрыемнасцямі хаваецца большая бяда, ад якой засцерагае Бог.*

*Сёння прапануем Табе паразважаць над тым, што Усемагутны заўсёды побач, нават у самыя цяжкія хвіліны жыцця.*

# Тры дарогі

*Ішоў хлопчык па дарозе. Раптам спатыкнуўся і ўпаў. Параніў ногі, збіў лоб. Пакрыўдзіўся хлопец на Бога і сказаў:*

*– Які ж Ты Ахоўнік, калі дазволіў мне так балюча стукнуцца?*

*І накіраваўся далей па іншай дарозе. Але не ведаў хлопчык, што наперадзе, дзе ён толькі што зваліўся, ляжала ядавітая змяя.*

*Раптам пачалася навальніца. Хлопчык пабег да дрэва, каб схавацца ад дажджу, але зноў упаў і ўдарыўся.*

*У другі раз звярнуўся да Бога:*

*– Ты не дазволіў мне нават схавацца ад дажджу, які ж Ты Ахоўнік пасля гэтага?*

*І павярнуў на трэцюю дарогу. Але не ўбачыў, як маланка стукнула ў дрэва, пад якім ён хацеў схавацца.*

*Пайшоў хлопчык трэцяй дарогай. Ішоў асцярожна, гледзячы пад ногі, і казаў:*

*– Больш не спадзяюся на Цябе, Божа. Не ахоўваеш мяне, не даеш ісці па дарогах, абраных мною…*

*І раптам зноў упаў і зламаў сабе руку. Моцна раззлаваўся на Бога і сказаў:*

*– Не веру я больш у Тваё існаванне. Ты не дапамагаеш мне, а толькі перашкаджаеш. Не пайду я па дарогах, а пайду праз горы.*

*Але не ведаў хлопчык, што трэцяя дарога нікуды не вяла, а ў канцы яе была толькі чорная бездань.*

*І палез хлопчык праз гару. А калі дабраўся да вяршыні, то з вышыні яе ўбачыў змяю атрутную на першай дарозе, дрэва абгарэлае на другой, прорву чорную на трэцяй, і зразумеў, што кожны раз Творца ратаваў яго ад гібелі. І з тых часоў стаў спаўна давяраць Богу.*

*Што адчуваў хлопчык, калі спатыкаўся?*

*Чаму наракаў на Бога?*

*Ад чаго Усемагутны засцерагаў хлопца?*

*Калі ён зразумеў, што Бог ніколі не пакідае сваё стварэнне?*

*Якія пачуцці хлопец перажываў у гэты момант?*

*Падрыхтавала Ангеліна Пакачайла*

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Жураўскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог дапамагае Вам заўсёды і адорвае ўсімі ласкамі на кожны дзень святарскага жыцця. Жадаем няспыннай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шчодрых дароў Святога Духа, а таксама моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, штодзённай радасці, усмешкі, цішыні ў сэрцы, шчырых і зычлівых людзей побач.

Усяго найлепшага!

*З удзячнасцю былыя парафіяне з Дзятлаўшчыны*

**Паважанага Ксяндза Віталія Цыбульскага**

віншуем з Юбілеем!

Сардэчна дзякуем за штодзённую працу ў нашай парафіі і перасылаем самыя прыгожыя пажаданні: моцнага здароўя на ўсё жыццё, радасці, аптымізму, надзеі, душэўнага супакою, сіл, стойкасці і мужнасці на кожны дзень у нялёгкай святарскай працы, Божага благаслаўлення і нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай прыклад Вашай веры, шчырасці і ахвярнасці будзе добрым узорам для ўсіх парафіян. Дзякуем за шчырае сэрца, дабрыню і Божае слова, а Вашым бацькам – за шчырага і добрага сына святара.

Няхай Езус Хрыстус зберажэ ад няшчасцяў, блаславіць Вас і блізкіх Вам людзей.

*Удзячныя парафіяне з касцёла свсв. Пятра і Паўла, Іўе*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Цыбульскаму**

з нагоды Дня нараджэння жадаем мноства шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, моцнага здароўя, нястомнай надзеі і нязгаснага запалу ў веры.

У Дзень нараджэння
Вам жадаем шчыра
Дабра, святла, удачы, міру.
Хай Бог даруе Вам цярпенне,
А ў працы – моцы і натхнення.
Хай усе мары явай стануць,
Усе надзеі – не падмануць.

*Легіён Марыі Нястомнай Дапамогі з Іўя*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Цыбульскаму**

з нагоды Юбілею жадаем моцнага здароўя, Божых ласкаў і апекі Панны Марыі на святарскім шляху. Просім Бога, каб Вы ўсё жыццё былі такім энергічным, чулым, адданым Богу і людзям. Дзякуем Вам за Божае слова і шчырае добрае сэрца.

*Удзячныя парафіяне з капліцы МБ Вастрабрамскай, Урцішкі*

**Паважаны Ксёндз Віталій Цыбульскі!**

Прыміце мае сардэчныя пажаданні з нагоды Юбілею.

Гады яшчэ хутчэй імчаць у даль,
Усё мінае, пралятае, быццам дым.
Табе жадаем, дарагі наш ксёндз Віталь,
Заўсёды заставацца добрым, маладым.
Здароўя моцнага і радасці жадаем,
Усіх Божых ласкаў, моцы ў руках.
Хай Твой Анёл Цябе аберагае
На святарскага жыцця шляхах.

*Удзячны парафіянін з Іўя*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну**

з нагоды Дня нараджэння жадаем добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою. Няхай радасць заўсёды Вам спадарожнічае, а цярплівасці і стойкасці хопіць на доўгія гады. Няхай міласэрны Бог адорвае Вас усімі сваімі ласкамі, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух вядзе праз усё жыццё і нястомна спасылае на Вас свае дары. Дзякуем за адкрытае сэрца і адданую службу Богу і людзям.

*Удзячныя вернікі з парафіі Звеставання НПМ, в. Міжэрычы*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, усмешкі і радасці. Няхай добры Бог, які паклікаў да святарства, узнагародзіць і ўзмоцніць Вас, каб жыццё напоўнілася дабрынёй, любоўю і надзеяй. Няхай Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі, каб Вашы казанні і дапамога маглі ратаваць і радаваць людскія душы. Дзякуем за цярплівасць і радасць, якую нам прыносіце ў кожную нядзелю.

*Сям'я Амбрашкевічаў, в. Клепачы*

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Ёдзіку і Віталію Цыбульскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні. Ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, бласлаўляе кожны Ваш дзень і адорвае здароўем на сто гадоў жыцця. Маці Божая няхай ахінае Вас сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае годна выконваць святарскую паслугу і нястомна адоравае сваімі дарамі. Жывіце ў здароўі і радасці. Няхай Вашыя сэрцы заўсёды будуць напоўнены супакоем і любоўю, а побач будуць добрыя і шчырыя людзі.

*Вернікі з парафіі св. Яна Паўла II, г. Смаргонь*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Валчкевічу**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца перасылаем найлепшыя пажаданні: Божага бласлаўлення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, усіх дароў ад Хрыста, моцнага здароўя, душэўнага супакою і зычлівых людзей побач. Няхай агонь Святога Духа, які зззяе ў Вашым сэрцы, ніколі не згасне, а радасць несці Хрыста людзям напаўняе Вашу душу. Дзякуем Вам за навуку і веды, якімі Вы дзеліцеся з намі, а Пану Богу – за тое, што паслаў нам Вас.

*Вернікі з парафіі св. Яна Паўла II, г. Смаргонь*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Гавецкаму**

з нагоды 20-годдзя святарскай паслугі ў нашай парафіі жадаем моцнага здароўя, поспехаў, цярплівасці, мужнасці, добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху. Дзякуем за духоўную апеку, спагадлівасць, нястомную працу, шчырую малітву, дабрыню і разуменне. Няхай Бог усемагутны дае Вам сілы, Дух Святы надзяляе мудрасцю і спакоем, Езус служыць прыкладам у святарстве, а Маці Божая заўсёды аберагае.

*Легіён Марыі Нястомнай Дапамогі з Іўя*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу**

з нагоды Дня нараджэння складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Божыя ласкі заўсёды Вас ахінаюць, дары Святога Духа прыносяць багаты плён у душпастырскай працы, а апека Маці Божай будзе надзейнай апорай на кожны дзень жыцця. Жадаем моцнага здароўя, радасці, цярплівасці, а таксама нязгаснага запалу веры, любові і надзеі.

*Верныя парафіяне з Воўпы*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Гавецкаму**

з нагоды 20-й гадавіны святарскай паслугі ў нашай парафіі перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог адорвае Вас усімі дабротамі і ласкамі, узмацняе ў выкананні душпастырскай працы. Дзякуем за духоўную апеку, навучанне і малітвы, а таксама за ўсё, што Вы зрабілі ў нашай парафіі: за каплічкі і прыдарожныя крыжы, прасторныя класы ў адноўленым кляштары, помнік чатыром канфесіям, фігуру Езуса ля касцёла, а таксама за цудоўны хор, пілігрымкі, фестывалі, працэсіі падчас урачыстасцей.

Прыгадаць усе заслугі немажліва.
Падзякаваць ксяндзу будзе справядліва.
Мы за свайго ксяндза Богу хвалу ўзносім.
Здароўя, шчасця, доўгіх год для ксяндза Яна просім.
Шчасці Божа!

*З малітвай і адданымі сэрцамі парафіяне з Іўя*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень жыцця будзе напоўнены Божым бласлаўленнем, радасцю і супакоем, а дабрыня і зычлівасць, якімі Вы адорваеце людзей, няхай заўсёды да Вас вяртаюцца. Мы ўдзячны Богу за тое, што Вы з намі, а таксама за цудоўны прыклад хрысціянскай шчырасці.

*Вернікі з в. Дубаўцы, Плябанаўцы, Лазы*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Этэлю ў сувязі з трагічнай смерцю брата складаем свае шчырыя спачуванні. Мы яднаемся з Вамі ў малітве за супакой яго душы.**

*Легіён Марыі з парафіі Божай Міласэрнасці, Гродна*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Этэлю, яго бацькам і ўсім родным перасылаем словы шчырага жалю і спачування ў сувязі з трагічнай смерцю блізкага чалавека. Няхай Пан прыме яго ў сваё Валадарства.**

*Касцёльны камітэт, Ружанцовае кола і вернікі з парафіі Гродна-Вішнявец*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com.; **http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 4261; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная